**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 18 (734) 1 траўня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

## У Глыбокім зацвілі вішні



Фота Змітра Лупача

Гарадоцкі раён

# А днём скідкі

■ Чэслаў Якубовіч

**Прыкметна павесялелі жыхары Гарадка з насельніцтвам пад 15 тысяч чалавек, калі за горадам усё ж пакінулі права правядзення апошніх рэспубліканскіх “Дажынак”, хоць і ў скарочаным фармаце.**

З улікам магчымасцей дзяржбюджэту ў райцэнтры да фестывалю-ярмаркі запланавалі здаць дзясяткі патрэбных людзям аб'ектаў. Першым з іх стала кафэ “Гараджанка”, якое стала проста не пазнаць пасля завяршэння капітальнай рэканструкцыі. На працягу 5 гадоў гэта кропка грамадскага харчавання не працавала, а каб удыхнуць у кафэ новае жыццё спатрэбіўся амаль 1 мільярд рублёў. Пасля ўрачыстай цырымоніі адкрыцця, якая прайшла днямі з удзелам старшыні праўлення Белспажыўсаюза В. Іванова, тут часта не хапае свабодных месцаў у трох абедзеных залах. Дарэчы, у дзённы час тут увялі скідкі амаль на 30 % да расцэнак на абеды і гэта павялічыла колькасць наведвальнікаў. Асабліва папулярным стала банкетная зала для правядзення невялікіх сямейных урачыстасцей. У абноўленым кафэ поўнасцю замянілі ўсе патрэбныя камунікацыі, закупілі ўтульную мэблю. Адкрыўся і міні-бар, дзе акрамя моцных напояў рыхтуюць і 10 відаў кактэйлей. З улікам таго, што кафэ размешчана на міжнароднай аўтамабільнай трасе, у ім і меню з апорай на нацыянальныя беларускія стравы складзена на некалькіх мовах. Персанал кафэ прайшоў навучанне на курсах англійскай мовы. Дарэчы, у сталіцы прадстаячых “Дажынак” на чарзе завяршэнне рэканструкцыі яшчэ кафэ прыдарожнага сервісу “Сустрэча”, рэстарана, рынка і шэрагу асноўных гандлёвых кропак горада

Аршанскі раён

# Арэна ў новай ролі

■ Станіслаў Раманчук

**У шэрагу гарадоў сутыкнуліся з такой праблемай, як вялікая стратнасць узведзеных там лядовых палацаў.**

Да ліку адных з самых вялікіх у Беларусі падобных аб'ектаў адносіцца і шматфункцыянальны спартыўны комплекс, які нядаўна запрацаваў у Оршы. На шчасце, лядовая пляцоўка там зроблена так, што яе можна трансфарміраваць пад правядзенне розных публічных масавых мерапрыемстваў. Днямі аршанцы ўпершыню пабачылі сваю арэну ў якасці сучаснай канцэртнай пляцоўкі. Некалькі дзён пайшло ў чэшскіх спецыялістаў з фірмы пастаўшчыка, каб укласці на пакрыццё арэны спецыяльных матаў, здольных вытрымаць нагрузку вагой 10 тон. Чэхі з беларусамі таксама змантціравалі і канцэртны комплекс з неабходным гукавым і светлавым абсталяваннем. На гала-канцэрт прыехалі спевакі, зоркі беларускай эстрады Саша Нема, Ларыса Грыбалёва і іншыя. Гараджане асабліва цёпла сустрэлі знакамітага беларуса з Нарвегіі Аляксандра Рыбака, вядомага сваёй перакананчай перамогай у 2009 годзе на тэлевізійным конкурсе песні “Еўрабачанне”. Малады артыст, які ўжо нямала паездзіў па свеце, быў прыемна здзіўлены гэтай пляцоўкай і з задавальненнем выканаў свае песні, бо перад гэтым у Віцебску нарэшце пабачыўся са сваёй бабуляй і іншымі роднымі. Першы канцэрт у Лядовым палацы атрымаўся ўдалым, а наяўнасць сучаснай апаратуры дазволіць і ў далейшым запрашаць розных артыстаў, тут могуць выступаць цыркавыя і іншыя калектывы. На Віцебшчыне такіх вялікіх пляцовак болей няма, на ёй без праблем можна паесці і паправіць сваё здароўе на іншых аб'ектах арэны.

Пастаўскі раён

# Творца, артыст і педагог

■ Кастусь Александровіч

**Заўжды лепей складваюцца справы ў розных сферах дзейнасці, калі імі займаюцца людзі па прызванні.**

Да ліку такіх адносіцца і пастаўчанін Анатоль Собаль, які ўжо чвэрць стагоддзя ўзначальвае мясцовую дзіцячую школу мастацтваў імя А. Тызенгаўза. Напярэдадні светлага свята Хрыстовага Уваскрасення яму ў ліку 60 работнікаў прамысловасці, навукі і культуры ў беларускай сталіцы ўручылі дзяржаўную ўзнагароду – медаль Францыска Скарыны. Яшчэ маленькім хлапчуком стаў ён добра іграць на гармоніку і вырас у прафесіянала экстракласу, выдатнага музыканта і кампазітара. Яшчэ працуючы выкладчыкам тагачаснай музычнай школы, у 1991 годзе Анатоль Анатольевіч стварыў новы фальклорны ансамбль “Паазер’е”. У яго ўвайшлі дзеці і ўнукі славутых груздаўскіх дзядоў-цымбалістаў, якія заклалі музычныя традыцыі яшчэ перад вайной за польскім часам. За тры дзесяцігоддзі дзейнасці гэты калектыў павысіў сваё майстэрства да прафесійнага, з нязменным поспехам даваў канцэрты ў розных кутках Еўропы. Невыпадкова “Паазер’ю” першаму ў краіне было прысвоена ў 2003 ганаровае званне “Заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь”. У рэпертуары ансамбля, непадобнага на іншых, кампазіцыі на мясцовых мелодыях ад полек да вальсаў, песні, якія раней спяваліся на Пастаўшчыне, а таксама новыя мелодыі, цікавыя для розных катэгорый гледачоў з-за самабытнай манеры выканання. Акрамя канцэртнай дзейнасці А. Собаль вядзе і плённую педагагічную дзейнасць, з ліку яго навучэнцаў выраслі многія прафесіянальныя музыканты і выкладчыкі.

# Аб самым надзёным

## ДА СУСВЕТНАГА ПЕРШЫНСТВА БЕЛАРУСЬ ПАДРЫХТАВАЛАСЯ, А ВОСЬ ДА САПРАЎДНАЙ ХАКЕЙНАЙ ДЗЯРЖАВЫ НАМ ЯШЧЭ ДАЛЁКА



■ Аляксандр Цішкевіч

**Канешне, у сябе дома дарослая беларуская зборная пастараецца выступіць добра. А вось што будзе праз год-два? Працэс змены пакаленняў у вялікім спорце заўсёды балючы, а за нашымі мацнейшымі ігракамі сталага ўзросту штосьці не бачна сапраўдных моцных майстроў.**

Для большасці беларусаў даўно стала зразумела, што ў нашай краіне спорт нумар адзін – гэта хакей. Дзе яшчэ ў свеце сустрэнеш кіраўніка практычна пенсійнага ўзросту, які рэгулярна адзявае форму і выходзіць з клюшкай на лёд, прапагандуючы тым самым здаровы вобраз жыцця. Таму і прадстаячы ў маі чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску стаў сёлета падзеяй не толькі спартыўнай, а значна большай, унутры дзяржавы штогадовае першынство на лядовых арэнах – яшчэ і важнейшае грамадска-палітычнае мерапрыемства.

З прапагандысцкіх мэтаў хакейны чэмпіянат паабяцалі зрабіць лепшым у гісторыі і, безумоўна, будуць старацца гэта зрабіць тым больш, што зімой у Сочы для беларусаў так паспяхова завяршылася зімовая Алімпіяда. Аднак для беларускай сталіцы ўжо дабавіліся дадатковыя станоўчыя дывідэнты. Практычна кожны тыдзень у красавіку ў розных кутках Мінска адна за другой здаваліся ў эксплуатацыю сучасныя гатэлі. Самым апошнім адкрыюць пяцізоркавую гасцініцу “Пекін”. У выніку гасцінічны фонд мегаполіса павялічыўся ў 2 разы, практычна вырас амаль на 10 тысяч месц. Напрыканцы красавіка ў гасцінічным бізнесе з'явіася больш 3 тысяч новых рабочых месц не толькі ў сферы абслугоўвання гасцей, але і ў грамадскім харчаванні.

Для нашай краіны, безумоўна, добра, што правялі рэканструкцыю і аэравакзальнага комплексу Нацыянальнага аэрапорта Мінск. У гэтай паветранай гавані ўсё зіхаціць, утульна і прыгожа, у суткі могуць прымаць да 29 тысяч авіяпасажыраў. У дадатак з абноўленага аўтавакзала “Цэнтральны” да аэрапорта сталі хадзіць айчынныя аўтобусы павышанай камфортнасці. Неўзабаве туды працягнуць і чыгуначную ветку, станучь хадзіць у аэрапорт хуткасныя электрычкі. Вялікі аб'ём таксама правялі ў Мінску дарожных работ і наша сталіца, як у 1980 годзе перад маскоўскай Алімпіядай, памаладзела, абнавілася і выглядае сучасна і прыгожа.

Беларусы, дарэчы, з цяжкасцю дабіліся права правядзення сусветнага першынства. Да апошняга моманту ў ход яго падрыхтоўкі дабаўляліся палітычныя праблемы, але гэта засталося ў мінулым. Адна з буйнейшых у Еўропе “Мінск-Арэна”, на якую людзі добра хадзяць на гульні і канцэрты, і шматфункцыянальны комплекс “Чыжоўка-Арэна” гатовы прыняць 16 лепшых зборных каманд свету, а гледачы пагледзець 64 матчы. Па кошце ўваходных білетаў гэты чэмпіянат адзін з самых танных і дэмакратычных, бо не такія багатыя суайчыннікі ў параўнанні з іншымі дзяржавамі па ўзроўні сваіх даходаў.

Продаж квіткоў пачаўся яшчэ летась восенню і праходзіў даволі актыўна і паспяхова. З рэгіёнаў людзі таксама масава паедуць у Мінск, бо калі яшчэ ў жыцці выпадзе магчымасць пабачыць падзею значнага маштабу. А вось са спартыўнага боку гледжання беларусам няма на што разлічваць. Добра будзе, калі нацыяльная зборная захавае прапіску ў эліце сусветнага хакею, бо нам далёка да грандаў і рана яшчэ называцца сапраўднай хакейнай дзяржавай. Наша краіна - даволі бедная на кантыненце, трэба прызнаць, і мае толькі тры дзясяткі крытых лядовых каткоў. У параўнанні з тымі ж фінамі, шведамі, чэхамі, не кажучы ўжо пра Канаду з ЗША – гэта проста капля ў моры.

Узровень беларускіх дзіцяча-юнацкіх хакейных школ, а потым і прафесійных каманд істотна саступае замежным канкурэнтам і сапернікам. Як свежы прыклад, бліжэйшы рэзерв нацыяльнай зборнай Беларусі нашы юніёры на сусветным чэмпіянаце свету нават не ў элітным першым дывізіёне фінішавалі толькі чацвёртымі. Канешне, у сябе дома дарослая беларуская зборная пастараецца выступіць добра. А вось што будзе праз год-два? Працэс змены пакаленняў у вялікім спорце заўсёды балючы, а за нашымі мацнейшымі ігракамі сталага ўзросту штосьці не бачна сапраўдных моцных майстроў.

Аднак як будзе на пляцоўцы, вырашаць канкрэтныя гульні, якія ў прамым эфіры ўсе пакажуць асноўныя беларускія тэлеканалы. Можна не сумнявацца, што застануцца задаволеныя і самі ўдзельнікі сусветнага першынства, паколькі беларусы – шчырыя людзі і раней славіліся сваёй гасціннасцю. Наш сэрвіс з цягам часу расце і павінен задаволіць і патрабавальную публіку. У нас, сапраўды, ёсць нядрэнныя лядовыя арэны і беларусы з душой правядуць гэта сусветнае першынство, ужо 78-е па ліку ў гісторыі. Трэнер у нашай зборнай таксама спецыяліст высокага класу і будзем спадзявацца, што беларускія хакеісты годна вытрымаюць нялростыя выпрабаванні, якія выпадаюць на чэмпіянатах такога ўзроўню. А час пакажа праз пару тыдняў, ці дапамогуць родныя сцены сваёй зборнай.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 01.05.14 | | | | Пятніца 02.05.14 | | | | Субота 03.05.14 | | | | Нядзеля 04.05.14 | | | | Пн.05.05.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +9 | +14 | +19 | +14 | +7 | +6 | +10 | +8 | +6 | +7 | +9 | +8 | +6 | +6 | +6 | +5 | +4 | +4 | +6 |
| Ціск | 740 | 740 | 739 | 739 | 742 | 745 | 747 | 748 | 748 | 749 | 749 | 748 | 747 | 744 | 741 | 739 | 737 | 735 | 736 |
| Вільготнасць | 71 | 58 | 32 | 46 | 52 | 54 | 38 | 41 | 60 | 63 | 43 | 45 | 57 | 86 | 84 | 75 | 75 | 91 | 78 |
| Вецер м/сек | 2 Ю | 5 Ю-З | 7 З | 6 З | 8 С-З | 6 С-З | 4 С-З | 3 С-З | 3 С-З | 2 С-З | 2 С | 2 С | 2 С | 4 С-В | 6 С-В | 5 С | 6 С | 6 С | 7 С-З |

## Дзень за днём

**З пачатку года рост цэн у Беларусі быў большым, чым ва Украіне, РФ і Казахстане, рэнтабельнасць айчынных прадпрыемстваў упала да 7 %. Эксперты пацвердзілі, што 2014 год, верагодна, стане апошнім у гісторыі выпуску беларускіх тэлевізараў, бо іх мала хто купляе. Мэр Мінска прапанаваў зрабіць платнымі 10 км першага транспартнага кальца. Матацыклам могуць забараніць ездзіць па асноўных дарогах краіны з-за высокай аварыйнасці і празмернага шуму рухавікоў. Беларусы раскупілі амаль усе пуцёўкі ў айчынныя санаторыі на летні сезон. Чыгуначнікі трох краін узгаднілі графікі руху цягнікоў праз Украіну ў Крым.**

# Важнейшыя навіны свету

**Швейцарыя.** Па выніках перамоў у Жэневе Украіны-ЕС-ЗША-РФ усе захопленыя будынкі сепаратысты павінны былі вызваліць, раззброіцца, аднавіць бяспеку для людзей.

**Расія.** У эканоміцы РФ, як пацвердзіў глава Мінэканомразвіцця А. Улюкаеў, пачаўся спад, сітуацыя вельмі дрэнная з-за знешніх прычын, адток капіталу перавысіў 63 мільярда долараў.

**Германія.** У адказ на ціск Расіі нямецкая кампанія RWE пачала пастаўкі ва Украіну газу да 10 млрд. м3 у год праз Польшчу, паліва ўкраінцам гатова пастаўляць і Францыя.

**Балгарыя.** Краіна дэмантавала на сваёй тэрыторыі трубы нафтаправода "Паўднёвы паток" з першым швом, зробленым восенню 2013 года, для "Газпрама" – гэта ўдар пад дых.

**Польшча.** Вядомы эканаміст Лешак Бальцаровіч прапанаваў ЕС паступіць з Расіяй так жорстка, як з Іранам, каб спыніць яе агрэсіўную палітыку ў адносінах Украіны.

**Украіна.** Вярхоўная Рада прызнала Крым "акупіраванай тэрыторыяй", там ужо выраслі цэны на 20 %, правальваецца курортны сезон, узніклі перабоі з падачай вады.

**Літва.** Сейм краіны прыняў Закон аб пераходзе з 2015 года на еўра і неабмежаваным у часе курсе абмену 3,4 літы за 1 еўра, літоўцы стануць 19 сябрам дзяржаў еўразоны.

**Расія.** Беларускі прэм'ер М. Мясніковіч публічна заявіў у Маскве, што Украіна са сваімі праблемамі самастойна разбярэцца і не пагадзіўся з ацэнкай сітуацыі расійскага калегі.

**Кувейт.** Суд часова на 2 тыдні прыпыніў выпуск незалежных газет "Аль-Ватан" і "Алам аль-Юм" за публікацыю матэрыялаў пра рыхтуемую спробу дзяржаўнага перавароту.

**Украіна.** Кіраўніцтва Сумскай вобласці пачало рыць глыбокі роў даўжынёй 560 км на граніцы з Расіяй, каб адтуль не прайшла баявая тэхніка і кантрабандысты на машынах.

**Карэя.** Амаль 300 чалавек, пераважна падлеткаў прапалі без звестак пасля аварыі пасажырскага парома, удалося выратаваць 179 чалавек, але з іх былі дзясяткі параненых.

**Мексіка.** Ва ўзросце 87 гадоў пасля выпіскі з клінікі Мехіка памёр знакаміты калумбійскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Габрыэль Гарсія Маркес.

**Італія.** Былога прэм'ерміністра С. Берлусконі суд прыгаварыў да 1 года грамадскіх работ у доме прэстарэлых за ўхіленне ад выплат падаткаў, забараніў і выезд за граніцу.

**Расія.** Звольнены з працы ў МГІМА за крытыку курсу Пуціна прафесар Андрэй Зубаў папярэдзіў свет, што ў Расіі пачала з'яўляцца сапраўдная "фашысцкая дзяржава".

**Марока.** У элітным гатэлі La Mamounia ў Маракешы 27-гадовая малодшая дачка Пуціна Кацярына тайна згуляла 3-дзённае вяселле з каханым карэйцам Юн Джун Вонам.

# Беларускіх ІП на рынках абавяжуць мець айчынныя аналагі імпартных тавараў



■ nn.by

**Беларускіх індывідуальных прадпрымальнікаў, якія працуюць на рынку, плануецца абавязаць мець айчынныя аналагі той імпартнай прадукцыі, якой яны гандлююць. Аб гэтым паведаміў сёння журналістам віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч.**

Міністэрства гандлю распрацоўвае адпаведныя асартыментныя пералікі, якія будуць дзейнічаць на рынку. Гэта робіцца для таго, каб у спажыўца быў выбар, «гэта значыць, калі ёсць імпартны тавар, павінен быць і айчынны», растлумачыў віцэ-прэм'ер.

Пётр Пракаповіч звярнуў увагу, што яшчэ літаральна 10 гадоў таму імпарт спажывецкіх тавараў знаходзіўся на ўзроўні 10-15 працэнтаў. У мінулым годзе гэта лічба вырасла ўжо да 30 працэнтаў. На долю харчовых тавараў у агульным аб'ёме імпарту прыпадала 32 працэнты, нехарчовай сферы рынку — 64 працэнты. Усяго за 2013 год Беларусь імпартавала спажывецкіх тавараў больш як на 7 мільярдаў долараў. Пры гэтым толькі 15 працэнтаў ад гэтай сумы пайшло на тавары, якія рэспубліка сёння не здольна выраблять сама.

Атрымліваецца замкнёны круг, канстатаваў віцэ-прэм'ер. Даходы насельніцтва павышаюцца, але яны трацяцца на імпартныя тавары і паслугі, замест таго каб ісці на развіццё ўласнай эканомікі. «Таму цалкам зразумела, што кіраўнік дзяржавы паставіў задачу разарваць гэты заганны круг і працаваць такім чынам, каб мы забяспечылі канкурэнтаздольнымі таварамі і паслугамі патрэбы нашага насельніцтва», — адзначыў Пётр Пракаповіч. Калі не зрабіць гэтага цяпер, сітуацыя на валютным рынку будзе складанай, не атрымаецца забяспечыць стабільнага развіцця эканомікі ў цэлым.

Выхад з сітуацыі, якая склалася, паводле слоў віцэ-прэм'ера, павінен ажыццяўляцца ў некалькі этапаў. Першы з іх — не павялічваць долю ў агульным тавараабароце імпартных тавараў і паслуг. «30 працэнтаў — гэта больш чым дастаткова», — лічыць Пётр Пракаповіч. На другім этапе неабходна паступова зніжаць гэту долю і накіроўваць грошы, якія ёсць у насельніцтва, на развіццё ўласнага бізнесу, уласных прадпрыемстваў, эканомікі і павышэнне жыццёвага ўзроўню.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Да канца чэрвеня, як паведаміў расійскі пасол А. Сурыкаў, вырашыцца канчаткова пытанне далейшых паставак нафты ў Беларусь аб'ёмам 11,5 мільёна тон, ёсць разыходжанні.

**Мазыр.** Урад РБ сур'ёзна змяніў умовы прыватызацыі мясцовага НПЗ, замест усяго дзяржпакета акцый завода на продаж будзе выстаўлена толькі 30,01 % акцый.

**Салігорск.** Супрацоўніцтва "Беларуськалія" з расійскім буйным вытворцам "Уралкаліем" можа быць адноўлена пасля прайшоўшых у Мінску першых перамоў аб намерах.

**Мінск.** З сайтаў прэзідэнта РБ, БелТА і "Інтэрфакса" раптам знялі паведамленні аб прайшоўшых тэлефонных перамовах А. Лукашэнкі з прэм'ерам Польшчы Д. Тускам.

**Слуцк.** Па загадзе А. Лукашэнкі арыштавалі гендырэктара мясакамбіната і яго намесніка, іх віна нібыта была ў продажы мяса ў Расію ніжэй мінімальна ўстаноўленых цэн.

**Брэст.** На тэрыторыі ваеннай часці паблізу горада ўстроіў стральбу 35-гадовы прапаршчык, загадчык склада ўзбраення, пазней заснуў ад вады са снатворным.

**Мінск.** Не ўдасца ўхіліць праблемы ў эканоміцы, заявіў экспрэм'ер-міністр Беларусі М. Чыгір, паездкамі на заводы і публічнымі кадравымі разносамі, а потым арыштамі.

**Магілёў.** Без тлумачэння прычын улады не прадоўжылі візу на служэнне ў касцёле св. Казіміра ксяндзу Раману Шульцу, а таксама святару ў Іўянцы, летась было 9 такіх адмоў.

**Баранавічы.** Днём на падпітку 52-гадовы мужчына зайшоў у магазін і з пнеўматычнага пісталета расстраляў … камп'ютар, злоснаму хулігану пагражае да 3-х гадоў турмы.

**Мінск.** Поўнасцю Пуцін, як заявіла пісьменніца С. Алексіевіч, пахаваў надзеі пра тое, што Расія будзе еўрапейскай, але яна не такая моцная, каб рабіць выклік усяму свету.

**Вілейка.** Маці ў СІЗА даведалася аб расстрэле свайго сына, студэнта гістарычнага факультэта БДУ, які забіў сваю жонку з палюбоўнікам, калі застаў іх у ложку на кватэры.

**Гродна.** Па факце смерці маёра міліцыі, які застрэліўся з пісталета ў ціры РАУС, крымінальную справу ўзбуджаць не сталі пасля праведзенай праверкі здарэння.

**Ганцавічы.** У вёсцы Люсіна сямейная пара арганізавала розыгрыш суседзяў, муж купіў труну, а 34-гадовая жонка згуляла ролю нябожчыцы нібыта ад сардэчнага прыступу.

**Мінск.** Напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску зборная Беларусі прайграла 5 запар кантрольных матчаў пад кіраўніцтвам новага трэнера Глена Хэнлана.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Яшчэ 118 прадпрыемстваў і арганізацый вобласці, пераважна калгасы, у красавіку не выплацілі сваім работнікам 41 мільярд рублёў зарплаты, іх усё болей.

**Браслаў.** Рэспубліканскі цэнтр аздараўлення насельніцтва пачаў пошук інвестара для ўзвядзення санаторыя побач з возерам з лячэбнай граззю і мінеральнай вадой.

**Орша.** Па выніках нацыянальнага конкурсу за лепшыя дасягненні ў будаўнічай галіне Беларусі за 2013 год БУ 38 будтрэста № 9 атрымаў прыз за ўзвядзенне Лядовай арэны.

**Віцебск.** З пачатку года на тэлезаводзе "Віцязь", як і на сталічным "Гарызонце", вытворчасць тэхнікі ўпала яшчэ амаль на 80 %, 91 % прадаж электронікі – гэта імпарт.

**Наваполацк.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць 32-гадовага рабочага, які з-за збою банкаўскай сістэмы зняў з карткі за 9 месяцаў 1,7 мільярда рублёў.

**Дуброўна.** Да 3-х гадоў турмы пагражае двум беспрацоўным вяскоўцам ва ўзросце 42 і 45 гадоў, якія за зіму зламалі замок і скралі са склепа суседкіпенсіянеркі 200 кілаграмаў бульбы.

**Глыбокае.** У рамках штогадовай акцыі "Тыдзень лесу-2014" гараджане заклалі алею з больш 500 ліп, клёнаў, бяроз, рабін і ясеня ў гонар 600-годдзя роднага горада.

**Полацк.** Пагранічнікі сумесна з міліцыяй вылічылі і затрымалі 37-гадовага грамадзяніна Грузіі, які праігнараваў пастанову аб сваёй дэпартацыі з Беларусі за язду на падпітку.

**Віцебск.** У касах горада і праз Інтэрнэт пачаўся продаж білетаў на 49 мерапрыемстваў XXIII Міжнароднага фестывалю "Славянскі базар", іх кошт ад 50 тысяч да 1,3 мільёна рублёў.

**Орша.** Падчас капання траншэі глыбінёй 1,5 метра для вадаправода ў двары свайго дома грунтам засыпала 85-гадовага пенсіянера, яго выратавалі байцы раённага аддзела МНС.

**Верхнядзвінск.** З траўмамі рознай ступені цяжкасці трапілі ў райбальніцу трое чалавек пасля сутыкнення днём паблізу вёскі Жыгулі двух легкавых аўтамабіляў ВАЗ і ЗАЗ.

**Гарадок.** У спіс помнікаў прыроды нацыянальнага значэння можа трапіць камень-валун шырынёй 3 м і вышынёй 1,6 м, які знайшлі падчас падрыхтоўкі да "Дажынак-2014".

**Докшыцы.** Да свята Вялікадня Сітцаўскі сельсавет і святары арганізавалі на могілках у Малых Сітцах выразку ўсіх старых аварыйных дрэў, паўсюдна навялі парадак.

**Расоны.** У аграгарадку Кляціцы краязнаўцы са школьнікамі поўнасцю расчысцілі фундамент разбуранай бальшавікамі часоўні-помніка героям Айчыннай вайны 1812 года.

**Віцебск.** Упершыню каталіцкія вернікі вобласці ўбачылі святочную вігілію на Вялікдзень з кафедральнага касцёла Езуса ў прамой трансляцыі на тэлеканале Беларусь-1

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# «На Беларусі Бог жыве!»

**27 красавіка ўвесь свет сачыў за вельмі важнай і чаканай падзеяй: кананізацыяй адразу двух Папаў. У прысутнасці вернікаў са ўсяго свету, на чале з Папам Францішкам і Папам на пенсіі Бэнэдыктам XVI, былі абвешчаны два новыя святыя: Ян Павел II і Ян XXIII.**

■ **Лена Клімза-Колтан,**
***Фота: Юзаф Цапелік.***


Зміцер Вайцюшкевіч.

Нашы суайчыннікі, якім пашчасціла ў гэты дзень прысутнічаць на плошчы святога Пятра ў Ватыкане, віталі новаабвешчаных святых плакатамі з надпісам «На Беларусі Бог жыве!». Гэта цытата з вядомага, аднайменнага верша Уладзіміра Караткевіча.

Лучайская парафія не засталася абыякавай да гэтай падзеі. У касцёле святога Юды Тадэвуша адбылася святая Імша і набажэнства ў гонар новых святых. Падчас нядзельнага казання ксёндз пробашч Мікалай звярнуў увагу на значэнне постаці Яна Паўла II і Яна XXIII у сучасным свеце.

У правай бочнай наве святыні, перад упрыгожаным першымі вясновымі кветкамі, абразом Яна Паўла II, адбылося набажэнства. Спачатку вернікі памаліліся Вяночак да Божай Міласэрнасці. Пасля мелі магчымасць малітоўна паразважаць аб супакоі, цытуючы мудрыя думкі святога Яна Паўла II: «Супакой даступны тым, хто сярод жыццёвых перажыванняў, у стане прыняць Божае слова і захаваць яго да канца». Або не менш важныя словы святога Яна XXIII: «Нельга хрысціянам забываць, што іх мэтай з'яўляецца не дасканаласць, але збаўленне». Літанія да святога Яна Паўла II стала цудоўным працягам набажэнства. На заканчэнне прагучала любімая песня Папы-паляка «Barka»: «О, Пане, на мяне Ты спагляную, з Тваіх вуснаў я пачую сваё імя...».

З нагоды абвяшчэння новых святых, пасля Літургіі адбыўся канцэрт вядомага беларускага выканаўцы Зміцера Вайцюшкевіча (гэта яго ўжо трэці выступ у парафіі Лучай). Музыка выканаў творы на словы У. Караткевіча, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Русака. У канцэрце прагучалі песні: «Дзе мой край», «Я нарадзіўся тут», «Дачакайся, матуля», гімн «Магутны Божа» і іншыя творы. Развітаўся спявак з прысутнымі песняй-пажаданнем «Бывайце здаровы!».

Падобныя канцэрты вельмі карысныя і патрэбныя, бо выклікаюць цудоўныя пачуцці і павагу да свайго-беларускага, пачуццё гонару за сваю Радзіму, якая нічым не горшая за іншыя краіны. Бо тут сапраўды жыве Бог!

Пасля канцэрту ва ўсіх прыхільнікаў творчасці Тодара (такі творчы псеўданім мае артыст) была магчымасць набыць музычныя дыскі і сфатаграфавацца на памяць.

Наступнае свята: адпустовая ўрачыстасць святога Андрэя Баболі адбудзецца 17 мая, а ў першы дзень мая Лучай развітаецца з копіяй абраза Маці Божай Будслаўскай, якая ад снежня перыгрынуе ў парафіі.

Лучай гасцінна сустрэне ўсіх жадаючых!

Будзем рады бачыць Вас на нашых святах.

# “Чароўны ласкуток”



У Глыбоцкім Доме рамёстваў працуе выстава ласкутковага шыцця Валянціны Юргель “Чароўны ласкуток”.

Выстава адкрылася 16 красавіка і будзе працаваць да 18 траўня.

Глыбоцкі Дом рамёстваў запрашае наведаць гэту выставу!

# Глыбачане будуць з мясам



■ **Зміцер Лупач**

**На Глыбоччыне вялікім попытам карыстаюцца парасяты.**

Шмат людзей сабралася ў пятніцу 25 красавіка каля глыбоцкага рынку, калі чакалі машыну з парасятамі з свінатаварнага комплексу «Маліноўшчына». Парасят раскупілі вельмі хутка.

«Даўно трэба дазволіць людзям гадаваць свінней, – паведаміла карэспандэнту адна з пакупніц, – а то захацелі нас голадам замарыць. Вось на Украіне людзі не вытрымалі, падняліся, і ў нас такое можа быць, калі будуць над намі здзекавацца».

Дарэчы, продаж вядзецца па папярэдніх запісе, што звязана з той жа чумой. Бо санітарнымі правіламі забаронена ўвозіць на тэрыторыю комплексу непрададзеных жывёл.

# МВФ рэкамендуе беларускім уладам не павышаць зарплаты

**У мэтах захавання макраэканамічнай стабільнасці беларускім уладам трэба адмовіцца ад практыкі павышэння зарплат у гэтым годзе, заявіў кіраўнік місіі МВФ Дэвід Хофман на прэс-канферэнцыі 28 красавіка. Для змякчэння «рызык неўпарадкаванай карэкціроўкі знешніх дысбалансаў патрабуецца неадкладна рэалізаваць больш рашучыя змяненні» ў эканамічнай палітыцы, сказаў ён.**

«У прыватнасці, у мэтах стрымлівання ўнутранага попыту і скарачэння дысбалансаў мэтавае крэдытаванне неабходна скарачаць значна хутчэй, чым прадугледжвалася цяпер, і не трэба далей павышаць заработную плату ў гэтым годзе», — падкрэсліў Дэвід Хофман.

Акрамя таго, дадаў ён, ураду неабходна праводзіць дастаткова жорсткую бюджэтна-падатковую палітыку, а Нацбанку — дапускаць больш значную гнуткасць абменнага курсу, адначасова ўзмацняючы жорсткасць грашова-крэдытнай палітыкі.

«Між тым, Нацбанку трэба дакладна адсочваць рызыкі ў банкаўскім сектары, у тым ліку і ў святле росту крэдытаў, якія не абслугоўваюцца, і інтэнсіфікаваць працу па стрымліванні росту валютных крэдытаў, што выдаюцца нехеджыраваным пазычальнікам», — сказаў кіраўнік місіі МВФ.

Ён таксама адзначыў, што для стымулявання ўстойлівага росту па-ранейшым патрабуецца рэалізацыя глыбокіх структурных рэформ у беларускай эканоміцы.

«Місія вітае нядаўняе скарачэнне колькасці тавараў, што падлягаюць цэнавому кантролю, але важна будзе падтрымаць гэтыя намаганні за кошт інтэнсіфікацыі рэформ па іншых кірунках, каб палепшыць агульнае размеркаванне рэсурсаў», — рэкамендаваў прадстаўнік МВФ.

Да канкрэтных крокаў у гэтым кірунку ён аднёс «фарміраванне плана дасягнення поўнага кампенсавання затрат за кошт тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі і паслугі транспарту з дакладна ўстаноўленымі тэрмінамі рэалізацыі мерапрыемстваў».

Таксама неабходны, сказаў Хофман, «канкрэтныя крокі па скарачэнні ролі дзяржавы ў эканоміцы, што павінна ўключаць у сябе хуткую паэтапную адмову ад сістэмы абавязковых мэтавых паказчыкаў для прадпрыемстваў і планы па прыватызацыі, якія заслугоўваюць даверу».

*Дзмітрый Заяц*, *БелаПАН*

# По дарозе страшна ездзіць


Дарога ў Старых Шарабаях.

■ **Зміцер Лупач**

**У рэдакцыю «Вольнага Глыбокага» патэлефанаваў наш чытач, які вельмі абураўся станам дарогі ў вёсцы Старыя Шарабаі.**

Па словах Данілы Ермаковіча, пасля таго, як па дарозе пройдзе грэйдар, ён навыдзірае шмат камянёў і па дарозе страшна ехаць.

– Ужо, наколькі я ведаю, у дзвюх машынах гэтымі камянямі пры разміне з грузавікамі было выбітае шкло. Раней пасля грэйдара рабочыя праходзілі, збіралі каменне, а зараз ніхто не збірае, – паведаміў спадар Даніла.

Дрэнны стан дарогі і на ўчастку ад Глыбокага да Зарубіна. А там жа зараз участак для праезду грузавікоў. Яны падымаюць шмат пылу, што стварае шмат непрыемнасцяў пешаходам і веласіпедзістам. Ды і самім вадзіцелям не вельмі прыемна ехаць па дрэннай дарозе.

Не так даўно быў адрамантаваны ўчастак дарогі па вуліцы Інтэрнацыянальнай у Глыбокім, што таксама прызначаны для грузавога транспарту. Ці не пара ўжо падумаць пра рамонт участка да Зарубіна?

# Мытнікі канфіскавалі партыю кантрабандных цыгарэт

**У Полацку мытнікі канфіскавалі буйную партыю кантрабандных цыгарэт, паведаміў БелаПАН у аддзеле ідэалагічнай работы Віцебскай мытні.**

У рэспубліканскім пункце мытнага афармлення «Полацк» 28 сакавіка ў 11.00 супрацоўнікамі Віцебскай мытні сумесна з супрацоўнікамі аддзялення пагранічнага кантролю пры правядзенні нагляду чыгуначнага вагона з вырабамі з пластмас (прэформа) былі знойдзены цыгарэты «Фэст». Партыя кантрабанднага тавару склала звыш 450 тыс. пачкаў агульным коштам каля 3 млрд. рублёў. Пачкі маркіраваны беларускімі акцызнымі маркамі.

Цыгарэты знаходзіліся ў кардонных каробках на паддонах, абцягнутыя плёнкай. Адпраўнік тавару — Смаленск (РФ), атрымальнік — Латвія.

*Марына Носава*, *БелаПАН*

# Працэс думкі па днях…





**Марыя Баравік,**
сябра СБП,
*г.п. Падсвілле.*

## Пнёўнасць

*Спілуй сасну – пакінь кастыль.*
*Скажы, што "еўрапейскі стыль".*

9 красавіка зрэзалі бярозы з правага боку агарожы сквера з гнёздамі. Ды пакінулі чатыры ствалы-пні вышынёй колькі метраў. Ужо, як мне сказалі людзі, пайшла вечарам паглядзець. Сапраўды стаялі высотныя пні. Чалавек з дома насупраць, прыкінуў: "Меншыя – восем метраў…" Адно было вышэйшае. Метраў, мабыць, 9 (на вока не ўмею вызначыць). Ляжалі адрэзаныя вярхі – белыя, здаровыя. Не паспелі падабраць. Дзень быў - серада. Жанчына званіла ў ахову прыроды. А раніцай наступнага дня і я пазваніла. Мне сказаў спадар Кміта: "У выканкаме ёсць дакументы на сем дрэў…". І падзякаваў, што хвалююся. Прызнацца, даверу не было. Але….

Мне думалася, што пасля стольких маіх вусных трывожных перамоў (кожную вясну) і выступаў у газетах ("Вольнае Глыбокае", "Наша Ніва"), на "Wiestki-info" ў інтэрнэце наступіць задуменне. Бо аголена галоўная вуліца. Такой зелені, якая некалі стварала і прыгажосць, і паветра - няма. Ну, калі зрабіць пустыню, тады ўжо і птушкі палятуць у нейкае замежжа. У мінулыя вёсны (дваццатку гадоў з лішнім) зразалі лепшыя, здаравейшыя, стрпайнейшыя дрэвы. Летась я кінулася на раду да дэпутата Длужнеўскага (кіраўнік лясгаса). Ён згадзіўся з маёй трывогай, асабліва па экалагічна-этычным, маральным пытанні, што пілуюць у час гнездавання - некуды, некаму званіў.

Тады пад кіраўніцтвам спадара Захарэвіча зноў выразалі шмат дрэў і ў скверы, і па вуліцы Савецкай. Нават ясені, якія пазней распускаюцца (прынялі іх за сухія). І пазнімалі па ўзроўні зямлі. А на паўвостраве ліквідавалі акаймленне левага берага моцнай альхой, якая з поўдня стварала цень. Адно добра – у цэнтры падчысцілі, там былі і гнілыя таполькі. І вось новая вясна. Гнёзды звітыя сапраўдным стараннем птушак. Я рада, урэшце, ад спакою пілы, ды – на табе!.. І гэткія "стаўбы" стаяць! І сцякаюць сокам. А мы, бач, не ведаем, дзе соку ўзяць на лячэнне. І гнёзды ляжаць на зямлі, сплецены з сырых пупышкавых галінак. Столькі працы было ў птушак! Адламвалі дзюбамі галінкі, узносілі на гняздо, напружана робячы ў паветры кругі. Будматэрыялу не было. Вуліцы і двары падмецены. Я спачуваю птушкам больш, чым нейкім абыякавым людзям. Бо людзі часта робяць не тое, не так і не ў пару. Чаму шмат колькі гадоў назад не прадумаць разумны план спілоўкі дрэў і азелянення пасёлка? Калі ўжо запрыкмечана, што дрэвы даўнія. Каб усім было добра: і людзям, і птушкам. Бо гракі – прылюдныя, сельскія. Хто скажа, што нешта пасаджана, дык не прыжылося ні адно дрэўца, каб можна было яго заўважыць. Як нашчадкавае. Узамен старога, спілаванага. І, менавіта, восенню знятага. Як птушкі паляцелі.

І навошта такая пнёўнасць? Згадваю, у нейкім газетным артыкуле чытала, што Прэзідэнт Лукашэнка ехаў і раптам звярнуў увагу на непамерныя пні абапал трасы. Ён ніколі такіх не бачыў. Здзівіўся самадзейнасці, якая так скалечыла дрэвы.

## Пні зніклі

*Замаж зямлёй чысцюткі пень,*
*Бялюткі пень і не яловы,*
*Як соку б'е з яго струмень,*
*А верх увесь пайшоў на дровы.*
*Падкінь сюды струпехлы пень –*
*цень на пляцень…*

У суботу, 12-га красавіка, зірнула ў бок сквера. А вохці мне! – які атлум! – Няма тых пнёў. Вадой разліліся. Дакладней сокам… Здалёку і зблізку няма. Ні дрэў, ні пнёў – чыста!

А 13-га гляджу: ад дарогі-вуліцы Савецкай, прыкладна, насупраць крамы "Партнёр", ля месца зрэзу першых бяроз, ляжаць два (меншы і большы) струхнелыя рагачы бярозавага роду і невядомага месца нараджэння (пазней ужо і трэці пакладуць).

Я прайшлася ўздоўж "спілавальнай лініі". А ззаду крычыць жанчына: "Ну й што гэта яны вытвараюць?! Ці будуць яны "наказаны"? Хай бы вы пісалі, што дзеецца…"

Пакаранне нам бывае з іншага боку, пажыццёва за бяздумнасць… за нашы асабістыя і сумесныя грахі, - думаю. Можа самапакаранне? Але кажу я жанчыне, што пішу. Ды не ўчытваюцца. А, мабыць, не так думаюць, як я. Мне ўжо і пісаць не хочацца. Але сёння, у Вербную Нядзелю, я іду з царквы. Найвышэйшы Творца ведае, што я думаю… А яшчэ я шкадую, што няма фотаапарата – зняць пейзаж : "Гнёзды на фоне неба", гледзячы ад царквы.

## Трымаюцца Радзімы

*Патрыятычныя гракі,*
*Чарнее ў небе ваша крылле.*
*Лёс, як і мой, у вас такі –*
*Не адрывацца ад Падсвілля.*

15 красавіка ў мяне дзбаты думак. Мы, мусіць, адвыклі верыць у патрыятычна-творчую працу кіраўнікоў. Таму так адмоўна ўспрымаюцца іх дзеянні, можа, часам, і нейкія правільныя, прадуманыя.

А тут яшчэ нічога не паляпшаецца ў жыцці, а горшае. І разбураецца тое, што было. Асабліва прыкметна гэта ў сельскай мясцовасці, у вёсках. Хоць, калі ўглядзецца, былое мае свае тэрміны. Але я згадваю, як некалі ў часы навабудоўлі ў Падсвіллі, ашчадна адносіўся да спілоўкі дрэў П.В. Татарынаў. Якраз гэтыя бярозы ён і захаваў. Пры ім зразалі выключна па неабходнасці. З ім можна было абмеркаваць, дамовіцца. Будуючы дзіцячы сад, ён пастараўся захаваць большасць дрэў.

Я цяпер успомніла, што нядаўна зноў раскопвалі там, пры агарожы сквера. Безумоўна ж дакраналіся да верхніх каранёў? А нехта казаў, што як бы сучок зваліўся каля прадаўцоў, што можа грак паўметра не данёс да гнязда. Ледзь не скалечыў чалавека! І, мабыць, сёлетняя пілоўка – сапраўды вынік нейкіх рашэнняў? Толькі пра гэткія меркаванні ў людзей ішла паніка яшчэ летась. Нібы ўжо тады вырашылі. А зрэзалі?.. Як птушкі ўладкаваліся. У птушак адно рашэнне – жыць на Радзіме! Любымі сродкамі. Пакутамі працягваць гракова род. Пасля масавай спілоўкі яны прыстасаваліся, нават, на кустах. Гэтым выразна кажуць, што нікуды не палятуць. "Майдан" можа быць... Але будуць змагацца.

Мая прыяцелька Тамара, якая жыве ля сквера, у доме на апошнім паверсе, кажа: "Я ніколі не чую гракоў… Па мне яны хай жывуць сотні гадоў тут, побач". Затое згадваю словы кіраўніка аперацыі "Зрэж дрэва" ў нейкі год у вясновы суботнік: "Якія гэта птушкі?.. Навошта з імі цырымоніцца?..". А які ты чалавек? – думаецца мне, калі не маеш зроку – убачыць радасць вясны, а толькі сучок пад нагамі. Ну, я – паэтка. Дык жа і не паэты ўсмешліва нясуць букецікі вербы з царквы. І нічога не маюць супраць гракоў.

Калі прыгледзецца, узмоцнены граковы рух – справа аднаго месяца, а то і менш, пакуль гнёзды звіваюцца. Дэбаты, рада, спрэчкі і, вядома, абарона ад захопу гнязда наглейшымі. Затым цішэе. Мір. Няма помсты. Бо яе ж толькі дурань прытрымліваецца.

На тое і вясна, каб птушыны гоман (праца, клопат, натхненне) жыло ў нашым боскім асяроддзі, і людзям ствараў радасць гэтага руху. А птушкі гэтыя – нашы. І як сімвалічна! -- Патрыятычныя. І працавітыя, як сяляне. Трымаюцца Радзімы. Адны, бадай, і засталіся тут. Шпакоў колькі? Салаўёў не чуваць. Гілёў зімой не ўбачыш. Бо знішчаны кусты баярышніку, рабіны…

Няма яркіх колераў восені, Бо клёны выразаны. І бярозы знімаюцца. Крывулькі сям-там па галоўнай вуліцы. Дубы ёсць каля возера і ўздоўж ручая. Такія-сякія сосны. Напамінаюць нам гісторыю мясцовасці і агульнага нашага тут узнікнення.

## Бліц-крыг

*"На вас задуманы Бліц-крыг.*
*Спакойна! Сыйдзе красавік,*
*Калі не праліецца кроў,*
*Вы адбудуецеся зноў".*
*(З расшыфроўкі дзятлавай разведкі)*

Таго пейзажу, што я хацела сфатаграфаваць ужо няма. 15 красавіка служба ЖКГ паскідала гнёзды з бярозаў уздоўж галоўнай вуліцы. Яны, чорна-блiскучыя і таўстадзюбыя сяляне, якраз у цэнтры Падсвілля, праз дарогу, збоч выканкама, працуюць на жыццё, не ведаючы пра згушчэнне чалавеча-суседскай нянавісці да іх. Як стаялі ўсе дрэвы, галоўным іх асяродкам была бярозавая алея (там цяпер хлявы). І на таполях уздоўж вуліцы Савецкай. Яшчэ на могілках. Ну, а як не стала дрэў на цвінтары і ўздоўж дарогі-вуліцы, дзе ім сяліцца? Яны хуценька кінуліся на ўсе астатнія і засяродзіліся з большага ў скверы і па вуліцы. Нават на малых дрэўцах прыстасаваліся. Ім дадзена прыродай трымацца разам. Бо яны не драпежнікі.

Птушкі, якія жывуць у Падсвіллі паўстагоддзя, не могуць уцяміць, чаго хоча ад іх чалавек, у чым іх віна перад ваяром. Кожны грак здзіўлены: заўсёды чалавека не баяўся, і ўсё было палюбоўна. А тут чалавек узʼерапеніўся. Сядзіць, у клетцы, як кукіш у кулаку, на канцы жалезнай жоўтай рукі з шастом і цягае гнёзды. Калі б зразумелі, чаму ваяр спланаваў аперацыю "Бліц-крыг", як фюрэр у час імпэту на Маскву, яны кінуліся б з вышыні ў атаку на мазгавыя кропкі сканцэнтраванай нянавісці. Тут гракоў шмат, і ў іх моцныя дзюбы. Але ж яны не драпежныя. Ваяр думае, што спіхне гняздо і грак паляціць у лес. А грак так не лічыць. Бо яму дадзена быць пры чалавеку. І ён, як быў граком, так і застаўся. А чалавек пра сябе зусім іншага ўяўлення. Бо ў яго мазгавы карабок большы. І кіруе на перспектыву палёту. Без крылаў. Ваюе з гракамі? І непераможна! Хоць для яго яны драбней, чым ягоныя куры. Выпадковасць прыроды. Ад курэй хоць карысць. А тут нейкая чарнеча капашыцца. Зняць яе!

Ну, хіба зброяй? Дык дзе зброя" Ці хопіць сродкаў? Калі на пасадку новых дрэў няма. На аплату гаручага для скавытання пілы. На падʼём да гнёздаў з шастом і на аплату за выратаванне капялюшыкаў, каб грак не запляміў. Вунь чалавеку з шастом крыўдна. Больш за птушак. Ён як адказвае на звычайнае пытанне: "Вы зразаць дрэвы будзеце ці толькі скідваць гнёзды?" "Мы ж – варвары", - кажа ён. Гэта нехта так метафарычна ахарактаразаваў ваяўнічы атрад. Суцэльная нянавісць разгортваецца і між людзьмі. А птушкі гэтага не ведаюць. Яны ў бядзе і ў жаданні жыць. Па-птушынаму дзейна і радасна.

Падумаўшы, службе ЖКГ гракі як бы і да патрэбы. Бо пры беспрацоўі забяспечваюць такі-сякі занятак – падмятаць За гэта ж і такая-сякая аплата. А то дзе зарабіць на хлеб? Што падмяцеш, а што дождж змые. Праз месяц і смецця ад гнёздаў няма. Толькі рух крылатых у небе – карміць птушанят.

## Застаюцца рахманымі

*Была і вайна, і разруха…*
*Не знаць бы той дзеі ганебнай!*
*Ды вы будзьце моцнымі духам!..*

14 красавіка (1-га па-старым стылі? Дзень смеху?) жыхарка В. сцвярджала жыхарцы С:

--Вайна будзе!! Я табе кажу! Паглядзіш! У Лукашэнкі – самалёты…

--Ты што?.. У нас – Майдан?.. Не паверу!!!

--Вайна-вайна!! – мой Лёшка казаў... Будзе!

--Не каркай!

Ну вось – думаю сёння, 15-га красавіка, нейкая прыкмета ад сцвярджэння В. ёсць? Цьфу! І я ўжо паддаюся… Тут жа – зусім іншае. Гэта проста механізаванае навязденне чысціні. Тым больш – новае кіраўніцтва пасля выбараў. Дапамога мятлоўнай жаночай камандзе. Да таго сёлета юбілейны год вызвалення Беларусі. Ой, паляцелі думкі, і ўсё гэта В. падштурхнула… Каб грэху хоць не набрацца… Але ж думкі: у нейкі юбілейны год, 2-ліпеня, пажарнікі затапілі струменем са шланга гнёзды з птушанятамі ў скверы. Змывалі іх. Каб святочны салют не заглушылі карканнем. Гнёзды тады спаўзлі!... Ды не зваліліся на зямлю. Дзеці казалі, што птушаняты загінулі. Дык сёлета яшчэ не было птушанят у гнёздах…

…Не церпіцца пад вечар зазірнуць на вуліцу…. Ці мае спраўдзіцца погляд на перспектыву. З дзятлавай тэлеграмы.

Так! Будуюцца зноў! На тых жа бярозах. Ужо на макаўцы спрытнае гняздо ляжыць. Адышлі ад стрэсу. Застаюцца рахманымі.

Во, калі б усім людзям пасёлка ды такую ўхватка да выратавальнай працы! Зажылі б? І не было б рытвінаў у панадворку нашага дома, у завулках і на завароце на вуліцу, усё яшчэ Савецкую. І дзверы новыя не разбівалі б нагамі ў падʼездах. Ліхтары былі б. І, нават, не курылі б там.

# Вось такое атрымалася паляванне



■ **Валерый Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Паляванне – адно з самых старажытных і любімых захапленняў людзей. У старажытныя часы людзі палявалі, каб здабыць сабе ежу, але з цягам часу паляванне паступова змяняецца. Шмат хто з паляўнічых разглядае паляванне не як працэс здабычы дзікага звера, а хутчэй як спаборніцтва, хто каго перахітрыць, адрэналін б'е праз край. Такім паляўнічым трэба не мяса, а сапраўдны трафей.

Каб паляванне прыносіла толькі станоўчыя эмоцыі, добры выкід адрэналіну, паляўнічым неабходна строга выконваць Правілы палявання, тэхніку бяспекі, заўсёды мець пры сабе неабходныя дакументы і памятаць, што любое паляванне ў радасць, калі яно законнае і заканчваецца без чалавечых ахвяр.

**З 1 траўня па 30 верасня** на тэрыторыі краіны дазволена паляванне на дзіка: з засады, з падыходу на дарослых самцоў старэйшых за 2 гады і маладняк да 2 гадоў любога полу.

**З 15 траўня па 30 верасня** цягам сутак дазволена паляванне на казулю еўрапейскую: дарослага самца, селекцыйнай жывёлы любога пола і ўзросту, ружэйным спосабам з засады, з падыходу з падманеваннем.

Аднак, не заўсёды чалавек са зброяй выконвае гэтыя правілы і добраахвотна становіцца парушальнікам.

Так, 25 красавіка 2014 года каля 20 гадзін вечара супрацоўнікам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету, якія знаходзіліся ў чарговым планавым рэйдзе, паступіла паведамленне аб тым, што паблізу вёскі Кураполле Пастаўскага раёна невядомы грамадзянін ажыццяўляе паляванне на гусей. Такое паляванне ў дадзены перыяд дазволена, але для такога палявання ўстаноўлены дазволеныя дні, у пятніцу паляванне на гусей забаронена.

Выехаўшы неадкладна ў названы раён, супрацоўнікі міжраённай інспекцыі выявілі аўтамашыну «Форд» і яе ўладальніка, жыхара г. Паставы. У аўтамашыне інспектары выявілі расчахлёную стрэльбу, а ў багажніку незаконна здабытага гуся. За парушэнне правілаў палявання і незаконна здабытага гуся складзены адміністрацыйны пратакол, зброя канфіскавана, а яго ўладальнік атрымае штраф і пакрые шкоду, што прычынена прыродзе ў памеры 10 базавых велічынь. Вось такое атрымалася паляванне.

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі выказваюць вялікуюўдзячнасцьграмадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-28670 - кругласутачна, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# З моўнай скарбніцы продкаў



■ **Людміла Ардынская,**
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

Калі размаўляеш з носьбітамі жывой народнай мовы, а гэта жанчыны, якім ужо за васемдзясят гадоў, здзіўляешся: такая адметная, багатая, самабытная, сапраўды сакавітая наша мова. У большасці жанчын-сялянак адукацыя толькі пачатковая, атрыманая пры польскім часе ў нашай паўночна-заходняй частцы Беларусі. Яле яны цікавыя апавядальніцы і зберагальніцы фальклору: песень, прымавак, ці як яны кажуць, "прымувісак", жартаў. Іх мова літаральна перасыпана прымаўкамі, трапнымі выразамі, якія, здаецца, нібы падрыхтаваныя на кожны выпадак у жыцці альбо сітуацыю, аб якой ідзе размова. У гэтых спадчынных каштоўнасцях адлюстраваны жывы народны розум, якім да ўсяго людзі даходзілі самі: і нялёгкая сялянская доля, і жыццёвы вопыт, які перадаваўся ад пакалення пакаленню, і абавязкова жарт, гумар. У гаворках з дыялектнымі асаблівасцямі паўночна-заходняга краю сталыя людзі захавалі састарэлыя, прастамоўныя словы, назвы прадметаў сялянскага побыту і працы, словы-паланізмы, запазычаныя з польскай мовы, прасочваюцца і русізмы.

Невялікая частка матэрыялу,запісаная ад Веры Міхайлаўны Папко (83г) і Ларысы Іванаўны Шпак (85г) – арэал в. Радзюкі і навакольных вёсак – прапануецца чытачу, які любіць роднае слова.

### Прымаўкі.

1. Які ні мужчына, а за ім дровы і лучына.
2. За сокалам і варона харашa.
3. Адзежку раскаціла, а ў танец не схадзіла.
4. Палый не прапалый.
5. У кожнай прыродзе то гультай, то злодзей.
6. Хто вінен, аддаць павінен.
7. Не смейся чужой бедзе, свая прыедзе.
8. Старасць не радасць, смерць не вяселле.
9. Думкі за гарамі, а смерць за плячамі.
10. Ходзіць па гары, а сонца не відзіць.
11. Не еў – знямог, пад'еў: ні рук, ні ног.
12. Чаго сляпому плакаць, калі дарогу відаць.
13. Бяла не бяла, ліш бы воду відала.
14. Пусці – павалюся, паднімі – устану.
15. У марцы, як у гарнцы: то цячэць, то пячэць.
16. Брат сястры пасаг не збірaець, а сястра брату каня не сядлаець.
17. У хаце дзеткі, як шкарпэткі.
18. Жыццё наша – аржаная каша, пад'еў бы якой, ды няма і такой.
19. Лепш адным камом падавіцца, чым двума.
20. Плач, галасі – рады не дасі.
21. Каму што, а дурню дзічкі.
22. Хоць яловае, але новае.

### Устойлівыя выразы (фразеалагізмы) гаворак мясцовасці.

Укінуць козлу ў хату.
Хоць куль саломы з'есці.
Хадзіць паверх лесу.
Як Марка па пеклу.
Брацца ўсім кагалам, усёй гамэрняй.
Кідацца ў вэпсы.
Убіцца ў ласку.
Накрыцца хвастом.
Глядзець, як мыш на крупы, глядзець у зубы, глядзець, як серада на пятніцу.
Строіць дурня.
Біць лынды.
Жыць, як набяжыць.
Не заносіць калёсы.
Гаварыць з вока на вока.
Насіць, як дурань дзверы.

## Віншаванкі

*Ларысу Зіфрыдаўну Янковіч*

**Віншуем з юбілеем!**



Пусть сбудется всё, что ещё не сбылось,
Чтоб долго, легко и красиво жилось,
Пусть жизнь твоя будет красива светла,
А мы никогда не разлюбим тебя!
***Муж, сыны, нявестка, сваты.***



*Канстанціна Канстанцінаўна Бахіра*

**Віншую з Днём нараджэння!**

Константин, с днем рожденья тебя!
Пусть поселится в доме удача,
Чтоб любовь отыскалась твоя,
Чтобы стал ты сильней и богаче,

Чтоб улыбка всегда на устах,
Словно яркое солнце, играла,
Чтобы всё удавалось в делах,
Чтобы побед было в жизни немало!
***Зміцер.***



## Падзяка

Выказваем вялікую падзяку калектыву Глыбоцкага РВЭС і асабіста кіраўніку Д. Ю. Мянжынскаму, калектыву Глыбоцкага кабельнага ўчастка ЭТЦС і асабіста інжынеру А. С. Марціновічу, кіраўніку Пастаўскага РВУЭ І. В. Тамашэвічу, айцу Мікалаю за дапамогу ў арганізацыі пахавання Тацціяны Іванаўны Шарбінай.

***Сям'я Болтуць, Пісарэнка.***

# Спецыяльнае комплекснае мерапрыемства (СКМ) «Нагляд»

■С.В. **Ешчанка,**
*Часова выконваючы абавязкі начальніка крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, капітан міліцыі*

Згодна з планам асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь на першае паўгоддзе 2014 года, у мэтах аздараўлення аператыўнай абстаноўкі, звязанай з учыненнем правапарушэнняў асобамі, якія маюць судзімасць, з 14 па 22 красавіка 2014 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна было праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства (СКМ) «Нагляд» з удзелам усіх службаў і падраздзяленняў Глыбоцкага РАУС і з прыцягненнем супрацоўнікаў Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь.

Падчас правядзення дадзенага мерапрыемства былі падвергнутыя праверцы ў вячэрні і начны час сутак па месцы жыхарства ўсе асобы, што стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, такія як асуджаныя да адбывання пакаранняў па прысудах судоў, не звязаных з пазбаўленнем свабоды, і якія маюць не знятую і непагашаную судзімасць пасля адбыцця пакарання і вяртання з месцаў пазбаўлення волі, якія стаяць на прафілактычным уліку. Усяго наведана па месцы жыхарства 302 асобы дадзенай катэгорыі. Сюды ўваходзяць: 8 асобаў, што знаходзіліся пад прэвентыўным наглядам, 9 асоб асуджаных да абмежавання волі без накіравання ў ПУАТ, 65 асоб, што фармальна падпадаюць пад дзеянне прэвентыўнага нагляду, 132 асобы, што асуджаныя да пакаранняў, не звязаных з пазбаўленнем волі, і 99 асоб, што маюць не знятую і непагашаную судзімасць.

Падчас мерапрыемства праведзена пашыранае пасяджэнне назіральнай камісіі пры Глыбоцкім РВК з удзелам начальніка Глыбоцкага РАУС, пракурора раёна і усіх суб'ектаў прафілактыкі. На дадзеным паседжанні было разгледжана 6 асоб, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, не працуюць і злоўжываюць спіртнымі напоямі, якім была прапанаваная дапамога па працаўладкаванні.

У дачыненні да двух асоб, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС і пастаянна парушаюць грамадскі парадак, устаноўлены прэвентыўны нагляд з пэўнымі абмежаваннямі, такімі як знаходжанне па месцы жыхарства ў вячэрні час і строгай яўцы на рэгістрацыю ў Глыбоцкі РАУС.

Выяўлена 6 парушэнняў прэвентыўнага нагляду, за што складзена 2 адміністрацыйныя пратаколы па арт. 24.12 КаАП РБ. За парушэнне ўмоў прэвентыўнага нагляду ў дачыненні да паднаглядных Л. матэрыялы перададзены ў Глыбоцкі РАСК для ўзбуджэння крымінальнай справы па арт. 421 КК РБ.

У дачыненні да асуджанага Р., які адбывае пакаранне па прыгавору суда Глыбоцкага раёна ў выглядзе папраўчых работ і які дапусціў парушэнні парадку і ўмоў адбыцця пакарання ўзбуджана крымінальная справа па арт. 416 КК РБ, а таксама ў дачыненні да асуджаных да абмежавання волі без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу грамадзян Ц. і Д. , якія таксама неадназова парушалі ўмовы адбыцця пакарання, падрыхтаваны матэрыялы для накіравання ў Глыбоцкі РАСК і прыняцця рашэння аб узбуджэнні крымінальных спраў па арт.415 КК РБ.

Глыбоцкім РАУС з зацікаўленымі ведамствамі раёна праводзіцца пастаянная работа па аздараўленні крымінагеннай абстаноўкі, дэзалкагалізацыі насельніцтва, прафілактыцы ўчынення злачынстваў і адміністрацыйных правапарушэнняў.

Аналіз стану законнасці і правапарадку на тэрыторыі раёна сведчыць, што праваахоўнымі органамі праведзена значная праца па ўмацаванні законнасці, абароне канстытуцыйных правоў грамадзян, грамадскіх і дзяржаўных інтарэсаў.

**У мэтах далейшай работы па падтрыманні правапарадку на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, неабходна ўсім грамадзянам не заставацца ў баку і аб вядомых ім фактах парушэнняў грамадскага парадку асобамі, што маюць судзімасць і адбываюць пакаранні, не звязаныя з пазбаўленнем волі, звяртацца ў Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: 102 , 2-27-02,2-17-60.**

